



# Рэгіянальная газета. Rh.by




Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

14 лістапада 2014 года №46 (1020)






## НАВІНЫ РЭГІЁНА

### Як пераносяць рабочыя дні ў святы

Рашэнне аб пераносе працоўных дзён змяшчаецца ў пастанове Савета Міністраў ад 10 лістапада, паведамляе "Наша ніва". З пятніцы, 2 студзеня, рабочы дзень пераносяць на суботу, 10 студзеня. Беларусы будуць адпачываць чатыры дні запар – 1, 2, 3 і 4 студзеня, з чацвярга да нядзелі. 5 і 6 студзеня, у панядзелак і аўторак, – працоўныя дні. А затым зноў выхадны – 7 студзеня, у сераду. Арганізацыі могуць пераносіць працоўныя дні ў іншым парадку.

**Аддзел інфармацыі.**



# Пяцёра дзяцей выхоўвае 27-гадовая мама

**ВАЛОЖЫН. Кацярыне Шастак з Сугваздаў 27 гадоў. На яе плячах трымаецца ўся гаспадарка і клопаты пра дом і дзяцей. Сёлета Кацярына атрымала дзяржаўную ўзнагароду – ордэн Маці.**

Кацярына ўпершыню за сем гадоў выйшла з дэкрэтнага адпачынку. Цяпер яна працуе санітаркай у дзіцячым санаторыі "Налібоцкая пушча".

– Мне за сем гадоў дэкрэтнага адпачынку надакучыла ўжо дома сядзець! Ды і грошы сям'і патрэбныя.

Муж Кацярыны **Валеры** працуе механізатарам у сельскагаспадарчым прадпрыемстве "Сугвазды-агра". Заробкі там таксама незайздросныя, асабліва зімой, прызнаецца маладая мама. Але ў мінулым годзе сельгаспрадпрыемства выдзеліла сям'і Шастакоў двухпавярховы дом з усімі выгодамі. Вялікі дом таксама вымагае дадатковых сіл: і абставіць яго мэбляй трэба, і прыбрацца на двух паверхах.

– Старэйшая дачка, другакласніца **Маша**, ужо крыху дапамагае. Я яе навучыла пыласос уключаць, пыл выціраць, падмятаць. Посуд пакуль не давяраю мыць, баюся, што можа параніцца.

– А я гатаваць вельмі з мамай люблю, – кажа Маша. – Мы і торцікі пячом, і булачкі. Але больш за ўсё я люблю гарохавы суп. І калі вырасту, стану пекарам!

Маша вучыцца ў Дорскай сярэдняй школе. Ад дома да школы прыкладна 10 кіламетраў. Кожную раніцу трэба паспець сабрацца на школьны аўтобус, які прыходзіць у 7:20.

Распарадак дня ў Кацярыны такі. Кожную раніцу яна падымаецца а палове шостай, збіраецца сама, будзіць дзетак. Заплятае дзяўчынкам коскі, адпраўляе Машу ў школу, **Мікіту**, **Мішу** і **Віку** – у садок. Малодшую, **Анютку**, якой толькі споўнілася два гады, даглядае маці Кацярыны **Леакадзія**, якая жыве ў гэтай жа вёсцы.



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Кацярына Шастак разам з дзецьмі. Злева направа: Ганна, Мікіта, Вікторыя, Міша і Маша.

Яна, акрамя таго, што сядзіць з унучкай, дапамагае Кацярыне і з гаспадаркай. Ля новага дома маладых Шастакоў пакуль няма магчымасці разбіць агародзік, таму ўсё вырошчваюць на ўчастку бабулі Лёдзі.

Кацярына прызналася, што на зіму паставіла больш за 50 слоікаў агуркоў і яшчэ больш кампотаў.

– Дзеці больш любяць кампоты, варэнне амаль не ядуць. На зіму закалолі апошняга кабанчыка, так што будзем з мясам, – кажа Кацярына. – А вось на парася грошай пакуль няма, таму ў лепшым выпадку будзем абзаводзіцца гаспадаркай толькі на лета.

У сям'і Шастакоў ёсць і свая традыцыя паходаў у магазін. Раз на месяц яны ездзяць у валожынскі супермаркет.

– Бяром з сабой мільён і затаварваемся прадуктамі на месяц.

**– Вялікая сям'я – гэта больш клопату ці радасці?**

– Клопату. Я ж з усім адна змагаюся. Муж пастаянна на працы. Але і радасць, канешне. Весела ў нас. Цішыні ў хаце амаль не бывае. Толькі днём, калі я дома, дзеці ў школе і садку, а Анюта засынае.

Кацярына і Валеры самі выхоўваліся ў шматдзетных сем'ях. У сям'і Валерыя, акрамя яго, выхоўвалася яшчэ пяцёра дзяцей, у Кацярыны, акрамя яе, – чацвёра. А самі вялікую сям'ю не планавалі.

– Мы ажаніліся, калі ў нас павінна была нарадзіцца трэцяя дачка – Вікторыя.

Дапамогу ад дзяржавы сям'я Шастакоў атрымлівае толькі на малодшую дачку, Аню.

**Сёлета Кацярыну ўзнагародзілі ордэнам Маці. А разам з ім выдалі грашовую дапамогу ў шэсць мільёнаў рублёў і 50-грамовы злітак срэбра.**

За гэтыя грошы плануюць купіць для Машы пісьмовы стол. Астатнія сродкі пойдуць на зімовае адзенне дзецям.

А срэбра плануюць раздзяліць паміж дзецьмі, каб кожны з іх ведаў, што ён часцінка вялікай сям'і.

**Наталля ТУР.**

ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Аптэка па вуліцы Міру: як падняцца на другі паверх без парэнчаў

**МАЛАДЗЕЧНА. Чаму аптэка знаходзіцца на другім паверсе, а парэнчаў, каб бяспечна падняцца ці спусціцца па лесвіцы, няма?**

Да нас у рэдакцыю звярнулася чытачка **Валянціна Капуцкая** з Маладзечна.

Яна распавяла гісторыю пра тое, што візіт у аптэку па вуліцы Міру ледзьве не каштаваў ёй дадатковых праблем са здароўем.

Справа ў тым, што аптэка месціцца на другім паверсе будынка, а парэнчаў на лесвіцы не ўсталявалі.

– Дадатковы жах у тым, што спусціцца па лесвіцы для сталага чалавека – гэта сапраўдная праблема, – кажа чытачка. – Я прыйшла ў аптэку якраз у час, калі людзей было мала.

**Стаяла на верхняй прыступцы лесвіцы і ледзьве не плакала ад таго, што сама спускацца баюся, таму што даўно ўжо хаджу з кіёчкам. І ніхто ў гэты час з аптэкі не выходзіў, каб можна было папрасіць дапамогі.**

Валянціна мусіла вярнуцца ў аптэку. Папрасіла дзяўчыну-фармацэўта дапамагчы ёй спусціцца. Але аптэкарка адмовіла. Сказала, што ў яе шмат працы.

Пенсіянерка пытаецца: як так можа быць, што ўстанова, у якую часцей за ўсё ходзяць хворыя людзі і людзі ва ўзросце, можа быць такой нязручнай для наведвання?

На пытанне нашай чытачкі адказвае загадчыца аптэкі №198 **Валянціна Журомская**:

– У аптэцы толькі закончыўся рамонт. Наведнікі яе памятаюць, што яшчэ зусім нядаўна гандлёвая зала працавала з тарца будынка. Рамонт завяршылі, засталося ўсталяваць парэнчы. Але каб спрасціць жыццё нашым наведнікам, вырашылі хутчэй адкрыць залу.

**На 11 лістапада было запланаванае ўсталёўванне парэнчаў. І яны будуць стаяць ужо сёння.**

Што тычыцца сітуацыі, калі аптэкарка не дапамагла сталай жанчыне спусціцца па лесвіцы, загадчыца пракаментавала, што не ведае такога выпадку, каб супрацоўнікі аптэкі камусьці адмовілі ў дапамозе. Яна ўпэўненая, што яе падначаленыя заўсёды гатовыя ісці насустрач кожнаму наведніку. А калі чытачка захоча пагаварыць пра гэты выпадак, Валянціна Журомская гатовая выслухаць яе ў любы час.

Загадчыца аптэкі папрасіла прабачэння за часовыя нязручнасці і паабяцала, што аптэка ўжо на гэтым тыдні будзе зручнай для сваіх наведнікаў.



**Наталля ТУР.**
E-mail: natali.turenok@gmail.com



Фота Настассі РОЎДЫ.

Раніцай у чацвер, 13 лістапада, парэнчы ў аптэцы па вуліцы Міру ўжо былі прымацаваныя.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**279 227**

Стольким жыхарам Беларусі ў 2013 годзе ўпершыню паставілі дыягназ, звязаны з праблемамі зроку

Гэта на **7 184** чалавекі больш, чым у 2012 годзе

Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі

АДПАЧЫНАК

## Новы год заказвалі ў верасні

**МЯДЗЕЛ.** Прададзена ўжо каля 80% навагодніх тураў на аб'ектах Нацыянальнага парку "Нарачанскі". Гэта ў гасцінічным комплексе "Нарач" і міні-гасцініцы на аўтакемпінгу.

Пераважная большасць адпачывальнікаў прыездзе з Расіі. Заказваць навагоднія туры пачалі ўжо ў верасні.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## На атамнай станцыі з'явіўся самы магутны ў краіне пад'ёмны кран

**АСТРАВЕЦ.** На Беларускай АЭС змантаравалі самы магутны ў Беларусі пад'ёмны кран. Яго грузападымальнасць складае 1350 тон. Даўжыня асноўнай стралы крана – 72 метры, дапаможнай – 36 метраў.

На месца ўзвядзення БелАЭС пад'ёмны механізм даставілі ў разабраным выглядзе і затым змантаравалі на будаўнічай пляцоўцы першага энергаблока.

**Паводле БелТА.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Шукаюць кіроўцу фуры, які насмерць збіў раварыста пад Ашмянамі

**АШМЯНЫ.** Ён з'ехаў з месца ДТЗ.

Здарэнне адбылося каля 20 гадзін у чацвер, 6 лістапада, каля вёскі Сухадолы Ашмянскага раёна.

На 35-м кіламетры аўтадарогі Варона-Ашмяны-Юрацішкі ехаў 49-гадовы раварыст. Кіроўца фуры ехаў у спадарожным кірунку на Ашмяны і наехаў на яго.

Ад атрыманых траўмаў раварыст загінуў на месцы аварыі.

ДАІ мяркуе, што на ровар наехала вялікагрузная фура нявызначанай маркі з паўпрычэпам. У цягача белая кабіна, белы паўпрычэп без надпісаў з расійскімі нумарамі. Магчыма, 178 ці 78 рэгіёна.

Калі вам штосьці вядома пра аварыю, просім пазваніць па тэлефоне **(+375 152) 79-75-05** ці **102**.

**Паводле gaigrodno.by.**

НАВІНЫ СПОРТУ

## У міні-футболе і валейболе перамаглі маладзечанцы

**МАЛАДЗЕЧНА, ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА.** У Маладзечне 7 лістапада прайшлі занальныя спаборніцтвы ў межах спартакіяды цэнтраў фізкультурна-аздараўленчай работы, фізкультурна-аздараўленчых цэнтраў і фізкультурна-спартыўных клубаў па месцы жыхарства.

У спаборніцтвах узялі ўдзел 90 чалавек. Яны змагаліся ў валейболе, міні-футболе і настольным тэнісе, паведамляе molodechno.edu.minskregion.by.

Прывядзём прызавыя месцы прадстаўнікоў рэгіёна.

Па міні-футболе першае месца заняла каманда Маладзечанскага раёна, трэцяе – Валожынскага.

У валейболе паміж жанчын другімі былі прадстаўніцы Маладзечанскага раёна, трэцімі – Валожынскага. У мужчын перамаглі маладзечанцы, на другім месцы – віляйчане.

У настольным тэнісе другое і трэцяе месцы занялі прадстаўнікі Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў. А ў асабовым заліку сярод жанчын перамагла **Яўгенія Хрусталёва** (Маладзечанскі раён).

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБА 101

## У Купе на пажары ўратавалі мужчыну

МЯДЗЕЛ. Удзень 10 лістапада выратавальнікі выязджалі на тушэнне пажару ў шматкватэрным доме па вуліцы Кастрычніцкай у к. п. Нарач (Купа). Патэлефанаваў у "службу 101" сусед. Ён убачыў, што ў суседняй кватэры – дым.

Прыехалі выратавальнікі і выцягнулі з задымленай кватэры на першым паверсе гаспадара. У яго – апёкі першай ступені 20% цела. Мужчыну шпіталізавалі.

У кватэры абгарэла канапа, пасцельныя рэчы. Пра гэта расказаў інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі **Дзяніс Малько**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Прычына пажару – тэлевізар

**ВАЛОЖЫН.** Здарэнне адбылося 8 лістапада ў вёсцы Цябуты Дорскага сельсавета.

Гаспадары дома, людзі пенсійнага ўзросту, у час пажару знаходзіліся на двары дома. Калі яны ўбачылі, што з дому ідзе дым і самастойна патушыць пажар ужо не атрымаецца, выклікалі дапамогу.

Супрацоўнікі пажарна-аварыйнай службы вёскі Доры, прыехаўшы на месца здарэння, убачылі, што гарыць драўляны дом.

У выніку пажару агонь знішчыў дах, вокны, столь, усю маёмасць у пакоі.

– Прычына пажару пакуль высвятляецца, але, хутчэй за ўсё, у пажары вінаваты тэлевізар. Найбольшыя пашкоджанні былі акурат у тым месцы, дзе і стаяў ён, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" старшы інспектар інспекцыі пажарнага нагляду Валожынскага РАНС **Алег Калітнік.**

## Вёска засталася без лазні

**ВАЛОЖЫН.** Грамадская лазня згарэла ў вёсцы Юзэфіна Івянецкага сельсавета ўвечары 8 лістапада.

Пра здарэнне "Рэгіянальнай газеце" расказаў старшы інспектар інспекцыі пажарнага нагляду Валожынскага РАНС Алег Калітнік.

У выніку пажару лазня засталася без даху, сцен і столі.

Прычына пажару – у парушэнні абсталявання і мантажу коміна лазні.

**Наталля ТУР.**



**На 7 мільярдаў рублёў** прадукцыі ЭНВА захоўваецца на складзе

**900 мільёнаў рублёў** – запазычанасць па крэдытах мае прадпрыемства перад банкам

Фота Наталлі ТУР.

# “Рабства на заводзе я не дазволю”

**МАЛАДЗЕЧНА. Такое падсумоўванне размовы пра сённяшнюю сітуацыю на заводзе ЭНВА Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (БелТІЗ) падвёў яго дырэктар Міхаіл Каляда.**

Прадпрыемства БелТІЗ працуе ў Маладзечне 26 гадоў. За гэтыя гады былі і ўзлёты, і падзенні, кажа дырэктар завода. Сённяшні стан завода хутчэй можна аднесці да невясёлых старонак яго гісторыі.

Сёння спажыўцамі прадукцыі завода з’яўляецца Мінскі трактарны завод, завод халадзільнікаў, завод “Гомсельмаш”, шэраг расійскіх заводаў. Гэта заводы халадзільнікаў з Саратава, Смаленска, Казані.

– Цяперашняя сітуацыя ў Расіі нанесла дадатковы ўдар па нашым прадпрыемстве. Абваліўся рубель – спыніліся заказы на прадукцыю, – кажа Міхаіл Каляда.

**Ад 1 лістапада прадпрыемства перайшло на трохдзённы працоўны дзень.**

Пра новыя віды прадукцыі ў такіх умовах гаварыць, вядома, не даводзіцца.

Прадукцыя завода неканкурэнтаздольная. Сённяшні рынак апанавалі танныя кітайскія вырабы. На складах ЭНВы цяпер захоўваецца прадукцыі на 7 мільярдаў рублёў.

– Ну не могуць 200 інвалідаў канкураваць з трыма мільярдамі кітайцаў! – кажа дырэктар.

Выжывае прадпрыемства шмат у чым дзякуючы дапамозе цэнтральнага праўлення БелТІЗ. Зборка дэталяў гарантуе 100 мільёнаў дадатковага заробку штомесяц.

Але прадпрыемства не захрасла ў крэдытах. Прадпрыемства мае крэдыту па заробках 300 мільёнаў рублёў, а таксама па зваротнай крэдытнай лініі запазычанасць у ЭНВы – 600 мільёнаў.

### Павітацца з кожным за руку – абавязак кіраўніка

Калі яшчэ год таму сярэдні заробак супрацоўнікаў, якія маюць інваліднасць, быў мільён семсот тысяч рублёў, то сёння – 800-900 тысяч рублёў.

Але галоўнае, лічыць Міхаіл Каляда, што пакуль прадпрыемству ўдаецца захаваць свае кадры.

– Мы нікому не адмаўляем, хто хоча прыйсці да нас працаваць. Мы падлічылі, што аптымальная колькасць работнікаў – 200 чалавек.

**Сёння ў нас працуе 239 інвалідаў, але мы захаваем кожнае працоўнае месца. І гэта не абмяркоўваецца.**

Галоўнай мэтай работы завода Міхаіл Іванавіч лічыць хутчэй не выпуск прадукцыі, а тое, што на заводзе вядзецца сур’ёзная праца па рэабілітацыі інвалідаў.

Міхаіл Каляда прыгадаў выпадак, калі да яго прыйшла жанчына, маці інваліда, з просьбай уладкаваць сына на працу. Хлопец амаль нічога не ўмеў. Ён прыходзіў на працу, каб проста пабыць у калектыве. Але яго маці потым прыходзіла і дзякавала дырэктару за тое, што даў магчымасць знаходзіцца сыну сярод іншых. Жанчына купляла яму нейкія рэчы за сваю і яго пенсію, але сыну казала, што гэта ён зарабіў. А той вельмі ганарыўся сваім укладам, тым, што ён патрэбны.

Кожны дзень дырэктар пачынае з таго, што праходзіцца па цэху, вітаецца з кожным за руку, пытаецца, у каго якія справы.

– Хаця сітуацыя ў нас няпростая, я не дазволю сваім супрацоўнікам працаваць бясплатна, як амаль прапаноўваюць некаторыя нашы заказчыкі. Рабства ў сябе на прадпрыемстве я не дазволю.

### Інваліды па зроку вучацца працаваць на камп’ютары

Сёння на заводзе працуе клас навучання працы за камп’ютарам. Заняткі праводзіць супрацоўнік завода **Віктар Жукоўскі.** Ён сам невідушчы, але астатніх вучыць працаваць на камп’ютары з нуля, або дапамагае засвоіць нейкую праграму.

Акрамя таго, на прадпрыемстве працуюць чатыры спартыўныя секцыі, пяць гурткоў мастацкай самадзейнасці, жаночы клуб “Гаспадыня”. У клубе “Гаспадыня” вучаць таму, як невідушчаму арыентавацца на кухні, працаваць з бытавымі прыборамі, гатаваць ежу.

### Па радыё слухаюць гараскоп і пра грошы па фэн-шую

На прадпрыемстве працуе свой радыёпункт. Радыёчасопіс “Энва” расказвае навіны кожную раніцу з 9:30 да 11:00. Вядзе ўсе праграмы ў прамым эфіры псіхолаг і інструктар па сацыяльна-працоўнай рэабілітацыі **Таццяна Саўчанка.**

– Асабліва папулярнасцю сярод нашых супрацоўнікаў карыстаюцца праграмы віншаванняў і гараскопы на сёння. Нядаўна стала весці перадачу, якая называецца “Усё да грошай”. У ёй я расказваю прыкметы і розныя спосабы з фэншуя, каб прывабіць грошы.

На развітанне дырэктар ЭНВы параўнаў сваё прадпрыемства з хворым чалавекам:

– У сітуацыі, калі жыццёвыя сілы пакідаюць, галоўнае не спыняцца, не апускаць рукі, не легчы. Інакш можна памерці. А калі варушыцца, рухацца, то, верагодней за ўсё, хвароба адступіць. Будзем варушыцца і чакаць, што лепшыя часы ўсё ж наперадзе.

**Наталля ТУР.**

| Курсы валют НБ РБ | 5.11 руб. | 13.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 10 730,00 | **10 740,00** |
| Еўра | 13 450,00 | **13 420,00** |
| Злоты | 3 167,71 | **3 173,76** |
| Літ | 3 881,63 | **3 881,50** |
| Расійскі рубель | 241,50 | **232,50** |
| Грыўня | 788,54 | **686,90** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | **12.11** |
| Еўра | 13390/13500 | **13340 /13500** |
| Долар ЗША | 10710/10770 | **10740 /10840** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 5.11 | 12.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **50900** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28900 | **28900** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 29500 | **29500** |
| Селядзец, 1 кг | 32800 | **32800** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 95000 | **95000** |
| Рыс, 0,9 кг | 11000 | **13000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 8500 | **9800** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 14000 | **14000** |
| Алей “Масловія” | 14300 | **14300** |
| Маянэз, 200 г | 6850 | **6000** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 11700 | **11700** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 32000 | **32000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 10700 | **10700** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5500 | **5500** |
| Капуста, 1 кг | 2500 | **2500** |
| Морква, 1 кг | 4900 | **4000** |
| Буракі, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Лімоны, 1 кг | 23000 | **15000** |
| Апельсіны, 1 кг | 15000 | **16000** |
| Мандарыны, 1 кг | 23000 | **26500** |
| Памідоры, 1 кг | 20000 | **20000** |
| Агуркі, 1 кг | 21000 | **19500** |
| Перац, 1 кг | 14500 | **15000** |
| Кавун, 1 кг | 6500 | **6000** |
| Дыня, 1 кг | 17000 | **15000** |
| Вінаград, 1 кг | 18500 | **16900** |
| Бананы, 1 кг | 14500 | **14000** |
| Хурма, 1 кг | 21000 | **22000** |
| Яблыкі, 1 кг | 8000 | **9500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 18000 | **18000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Тварог, 1 кг | 50000 | **50000** |
| Бульба, 1 кг | 5000 | **5000** |
| Сала, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 50000 | **50000** |

● НАШЫ ГРОШЫ

## Плануюць, што курс долара ў 2015 годзе будзе 11 300 – 11 400 рублёў

У Нацыянальным банку спадзяюцца, што інфляцыя ў 2015 годзе не перавысіць 12%. Аб гэтым журналістам паведаміла 10 лістапада **Надзея Ермакова**, кіраўнік Нацбанка.

У Нацбанку плануюць, што сярэднегадавы курс долара ў 2015 годзе будзе 11 тысяч 300 рублёў – 11 тысяч 400 рублёў. А стаўка рэфінансавання, паводле вынікаў года, – 16-17%.

Пры гэтым Надзея Ермакова адзначыла, што шмат будзе залежаць ад развіцця сітуацыі на сусветных рынках. Кіраўнік Нацбанка заўважыла, што ўрад мае адзін “базавы варыянт дзеяння і шэсць запасных”.

**Паводле Белапан.**

● ВЕДАЙ НАШЫХ

# Школьнікі з Гальшанаў выратавалі людзей, якія танулі ў возеры

**АШМЯНЫ. Васьмікласніца Вікторыя Янушкевіч і 11-класнік Павел Сянкевіч летам каталіся на лодцы па возеры, калі раптам пачулі крыкі: "Ратуйце, дапамажыце..."**

– Спачатку мне падалося, што гэта хтосьці жартуе, – успамінае той жнівеньскі дзень Павел. – Але, падплыўшы крыху бліжэй, я заўважыў мужчыну, які боўтаўся ў вадзе, трымаючыся за паўспушчаны матрац. На матрацы была жанчына гадоў сарака.

Павел, ні хвіліны не вагаючыся, скочыў са сваёй лодкі, каб дапамагчы людзям, якія трапілі ў бяду. Спачатку ў лодку пасадзілі мужчыну, якія ўжо доўгі час знаходзіўся ў вадзе, потым спалоханую жанчыну.

Як аказалася потым, мужчына і жанчына заснулі на матрацы. Іх цячэннем аднесла недзе за кіламетр ад берага, мужчына прачнуўся ад таго, што матрац пачало спускаць. Яны спачатку самі спрабавалі даплыць да берага, але ў іх не атрымоўвалася.

Гэта вялікая ўдача для іх, што побач аказаліся школьнікі з Гальшанаў.

– Калі мы былі на беразе, і ўся небяспека мінула, мужчына спытаўся нашы імёны і як з намі звязацца. Але так і не патэлефанавалі. Хочацца верыць, што ў іх усё ў парадку, – кажа Павел.

**– Чаму пра летнюю гісторыю стала вядома толькі цяпер?**

– Мы з Вікай увогуле пра гэта гаварыць не хацелі. Ну што тут такога. Так бы зрабіў кожны на маім месцы, тым больш, што я плаваю нядрэнна. Але ксёндз касцёла, дзе мы былі на экскурсіі, зрабіў усё, каб пра гэта даведаліся ўсе.

**– Штосьці змянілася ў вашым жыцці?**

– Калі лічыць, што пасля таго, як настаўнікі даведаліся пра мой учынак, сталі адзнакі лепшыя ставіць, то так, жыццё змянілася.

**– Лёс з МНС будзеце спрабаваць звязаць?**

– Каб бралі без экзаменаў, пайшоў бы! А так мне больш хочацца жыццё са спортам звязаць.

**Наталля ТУР.**



Фота 112.by

**Вікторыя Янушкевіч і Павел Сянкевіч ні хвіліны не вагаліся, каб выратаваць з вады людзей, якія трапілі ў бяду, заснуўшы на матрацы.**

● ЗДАРЭННІ

## Кіроўцу з машыны даставалі выратавальнікі

**МЯДЗЕЛ. Раніцай 4 лістапада на 151 кіламетры аўтадарогі Мінск-Маладзечна Нарач, каля вёскі Чараўкі, адбылося дарожна-транспартнае здарэнне.**

На слізкай дарозе 29-гадовы кіроўца аўтамабіля "Форд-Транзіт" не справіўся з кіраваннем. Машына з'ехала з праезнай часткі і аказалася ў кювеце.

Пра здарэнне мядзельскім выратавальнікам паведаміў кіроўца, які праязджаў міма.

Выратавальнікі дасталі пацярпелага з аўтамашыны з дапамогай дзвюх гідраўлічных станцый. Кіроўцу даставілі ў Мядзельскую цэнтральную раённую бальніцу, расказала інспектар групы прапаганды і навучання райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Ірына Карапецян.**

**Аддзел інфармацыі.**

● УВАГА! ВЫШУК

## Шукаюць зніклага мужчыну

**МАЛАДЗЕЧНА. Міліцыя шукае зніклага Уладзіслава Іосіфавіча Зяневіча.**



Нарадзіўся 14 мая 1976 года, яму 38 год. Жыве на вуліцы Крынічнай у Маладзечне.

Каля 17 гадзін 4 лістапада ён пайшоў з дому.

**Прыкметы.** Хударлявы, смуглы, карыя вочы, цёмна-русыя валасы, звонкі голас.

**Быў апрануты** ў чорную балонневую куртку з шэрымі ўстаўкамі, сінія джынсы, чорныя туфлі.

Курыць, часам злоўжывае спіртным.

Пераканаўча просім усіх, хто штосьці ведае пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць у міліцыю па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56 ці 102.**

**Аддзел крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

## 72-гадовая жанчына ехала ў вёску і знікла

**МАЛАДЗЕЧНА. Міліцыя шукае зніклую Зінаіду Аляксееўну Лябецкую.**



Яна нарадзілася 23 красавіка 1942 года. Жыве ў вёсцы Александрова Маладзечанскага раёна. Каля 9:30 у нядзелю, 9 лістапада, яна пайшла з дому, каб паехаць у вёску Старынкі. Дагэтуль невядома, дзе яна.

**Прыкметы.** Рост каля 160-174 сантыметраў. Хударлявая, бледны твар, зялёныя вочы, чорныя валасы. Была з прычоскай "гулька". Яснае маўленне, глухі голас.

**Была апранутая** ў чорнае паліто з шэрымі ўстаўкамі, чорную спадніцу, чорны світар, чорныя боты, на галаве – чорная хусцінка.

На патыліцы – радзімая пляма, ходзіць з устаўной сківіцай.

Пры сабе мела шэры пакет, чорны кашалёк з прыкладна 70 тысячамі рублёў, мабільны тэлефон "Нокіа".

Пераканаўча просім усіх, хто штосьці ведае пра месцазнаходжанне зніклай, паведаміць у міліцыю па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56 ці 102.**

**Аддзел крымінальнага вышуку Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**

● ЗДАРЭННІ

## У Вілейцы засеклі мужчыну – затрыманая 74-гадовая пенсіянерка

**ВІЛЕЙКА.** Увечары 9 лістапада ў Вілейцы ў гаспадарчай пабудове ў двары дома 74-гадовай пенсіянеркі знайшлі труп мужа. На яго галаве былі сечаныя раны.

Мужчына быў маладзейшы за жонку на дваццаць год, не працаваў.

Папярэдне ўстанавілі, што каля 16 гадзін мужчыну падчас сваркі сякерай забіла гаспадыня. Адбылося гэта пасля сумеснага распівання спіртных напояў. Жанчына затрыманая.

**Паводле МУС Беларусі.**

## 13-гадовыя школьнікі з Маладзечна скралі шэсць электронных цыгарэт

**МАЛАДЗЕЧНА.** Здарэнне адбылося ў суботу, 8 лістапада, каля 17 гадзін у гандлёвым цэнтры "Спадарожнік".

У міліцыю звярнуўся прадпрымальнік з паведамленнем пра тое, што вечарам у яго гандлёвым павільёне невядомыя адціснулі магнітныя замкі і пракраліся ўнутр памяшкання.

Невядомымі аказаліся трое 13-гадовых вучняў 7-га і 8-класаў школы №11 з Маладзечна.

У павільёне яны скралі шэсць электронных цыгарэт і пяць элементаў да іх агульным коштам чатыры мільёны сто тысяч рублёў.

Крымінальная справа узбуджаная не будзе з-за таго, што затрыманым не споўнілася яшчэ 14 год. Іх бацькоў прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці, а саміх школьнікаў паставяць на ўлік у інспекцыю па справах непаўналетніх.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" паведаміў старшы следчы Маладзечанскага аддзела Следчага камітэта **Юры Багушэвіч.**

**Наталля ТУР.**

● ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Пройдзе прафілактычная акцыя "Пешаход"

**МАЛАДЗЕЧНА.** Яна пачнецца 14 лістапада і завершыцца 20 лістапада.

Асаблівую ўвагу супрацоўнікі ДАІ звернуць на кіроўцаў, якія не даюць перавагі пешаходам пры пераходзе дарогі, ствараюць аварыйныя сітуацыі.

У поле зроку ДАІ трапяць і пешаходы, якія парушаюць правілы дарожнага руху. Да ўсіх правапарушальнікаў прыменяць самыя строгія меры адміністрацыйнай адказнасці.

Вадзіцелям рэкамендуюць не перавышаць хуткасць, захоўваць дыстанцыю, быць максімальна ўважлівымі, асабліва паблізу населеных пунктаў. Пешаходы павінны быць з флікерамі.

Сёлета на тэрыторыі Мінскай вобласці адзначаюць усплеск ДТЗ, звязаных з наездам на пешаходаў і раварыстаў. З іх удзелам было 304 ДТЗ. 68 чалавек загінулі, 249 атрымалі цялесныя пашкоджанні. Астатніх ДТЗ было 59. У іх загінула 9 пешаходаў, 52 раненыя.

На Маладзечаншчыне адбылося 53 ДТЗ. У іх загінула дзевяць чалавек, 47 атрымалі цялесныя пашкоджанні. Пяць ДТЗ па віне нецвярозых вадзіцеляў.

## Пройдуць прафілактычныя мерапрыемствы па бяспецы на чыгунцы

**МАЛАДЗЕЧНА.** Яны будуць доўжыцца да 30 лістапада.

Асаблівую ўвагу супрацоўнікі ДАІ звернуць на парушэнні правілаў праезду транспартных сродкаў праз чыгуначны пераезд.

## Праверашь тэхагляд

**МАЛАДЗЕЧНА.** Дэкаду дзяржтэхагляду праводзяць ад 10 да 20 лістапада.

У гэты час пракантралююць своечасовасць праходжання дзяржтэхагляду транспартных сродкаў.

Дэкаду праводзяць для ўзмацнення прафілактычнай работы ў сферы дарожнай бяспекі.

**Паводле інфармацыі Дзмітрыя ЮРКЕВІЧА, начальніка аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**

● АДУКАЦЫЯ

# У яслях-садку лечаць ад акуляраў

**МАЛАДЗЕЧНА. Выхаванцы дзіцячага садка за чатыры гады спецыялізаванай праграмы могуць значна палепшыць зрок, выправіць хібы вачэй ці ўвогуле дамагчыся адмены акуляраў.**

Яшчэ адзін вынік працы педагогаў – выдатная падрыхтоўка выпускнікоў садка да школы.

Дзякуючы сістэматызаваным штодзённым заняткам у дзяцей развіваюцца важныя для паспяховай вучобы псіхічныя працэсы: адвольная ўвага, памяць, наглядна-вобразнае мысленне, уяўленне. Праз выхаванне дзеці фарміруюць акуратнасць, уседлівасць, а таксама добра развіваюць дробную маторыку падчас разнастайных практыкаванняў.

Як адзначаюць работнікі садка, дальназоркасць і касавокасць – не рэдкія хваробы сярод сучасных дзяцей дашкольнага ўзросту. Але ў апошнія гады ў садок прыходзяць дзеткі з больш складанымі дыягназамі: адслаеннем сятчаткі, апушчэннем верхняга века, іншым. Некаторыя маюць інваліднасць па зроку.

Менавіта для таго, каб дапамагчы дзецям з захворваннямі ці наогул пазбавіцца іх, створаныя спецыялізаваныя садкі. Іх эфектыўнасць мы папрасілі ацаніць загадчыцу аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Іну Драпезу**:

– Вядома, існаванне падобных дашкольных устаноў сёння вельмі актуальнае. Праца над стварэннем спецыялізаваных садоў вядзецца, больш таго, плануецца развіццё гэтага напрамку дапамогі дзецям. Плануецца пашырэнне ўжо існуючых дашкольных устаноў, адкрыццё новых.













Фота Тамары АБРАМОВІЧ.

Выхаванцы маладзечанскіх ясляў-садка №32.

### Ці варта выбіраць садок каля дома

Цяпер на Маладзечаншчыне існуе адзіная дашкольная ўстанова, дзе разам з групамі агульнага прызначэння ёсць сем спецыялізаваных груп для дзяцей з парушэннямі зроку – гэта гарадскія яслі-сад №32. Тут з дзецьмі працуюць не толькі педагогі, але і медыцынскі персанал.

Пра перавагі гэтай установы адукацыі распавяла загадчыца **Іна Крупская**:

– Вядома, вы можаце аддаць дзіця і ў звычайны садок каля дома, але такі прынцып выбару дашкольнай установы наўрад ці найлепшы для развіцця вашага сына ці дачкі. Каб аформіць дзіця ў спецыялізаваную групу, бацькам трэба прыкласці шмат намаганняў. Але вынік таго варты!

Навучальныя праграмы ў нас распрацаваныя з улікам асаблівасцяў зроку і накіраваныя на іх карэкцыю і ліквідацыю праблемы. Як правіла, у такіх групах няшмат выхаванцаў, 7-15 дзяцей, а гэта дазваляе больш увагі ўдзяляць кожнаму.

### Як трапіць у спецыялізаваны дзіцячы садок ці групу

У спецгрупу для дзяцей з асаблівасцямі зроку залічваюць крыху паіншаму, чым у звычайную. Першае, што вам спатрэбіцца, – накіраванне ад доктара. Потым з гэтым накіраваннем і дзіцем варта ісці на псіхолага-медыка-педагагічную камісію.

Яна вынесе заключэнне, ці мэтазгодна наведваць дзіцяці спецыялізаваны садок або групу. Калі вы атрымаеце станоўчае заключэнне, то адпраўляйцеся з ім да загадчыка ўстановы дашкольнай адукацыі.

### З кожным працуюць асабіста

Яслі-сад №32 адпавядаюць усім патрабаванням для дзяцей з хваробамі вачэй. Ёсць тры асноўныя перавагі менавіта гэтай установы.

1. Кабінет плеопта-артаптычнага лячэння з адмысловымі апаратамі, якія дапамагаюць палепшыць зрок і выпраўляюць касавокасць.

2. Доктар-афтальмолаг рэгулярна аглядае дзяцей, удакладняе і прызначае лячэнне, вызначае нагрузку вачэй для кожнага дзіцяці індывідуальна.

3. У кабінетах для заняткаў групы ўвагу звяртаюць на ўмовы: асвятленне, навучальныя матэрыялы.

Цягам дня выхавальнікі праводзяць гімнастыку для вачэй і пальчыкаў.

### Як займаюцца з дзецьмі

У кожнай спецыялізаванай групе працуе настаўнік-дэфектолаг, які займаецца карэкцыяй зрокавага ўспрымання.

Калі ў групу паступаюць дзеці з парушэннем зроку, настаўнік-дэфектолаг старанна вывучае і аналізуе звесткі пра кожнага. Уважліва гутарыць з бацькамі. Разам з доктарам-афтальмолагам вызначае індывідуальную нагрузку на вочы, сочыць за развіццём зрокавага ўспрымання. Для працы з кожным дзіцем складаюць індывідуальны план работы.

Усё гэта дапамагае дзецям карэктаваць зрок ці цалкам пазбаўляцца ад сваёй праблемы. Як распавядаюць работнікі, некаторыя дзеці прыходзяць у садок у акулярах, а ў школу ідуць ужо з добрым зрокам.

**Тамара АБРАМОВІЧ, Маладзечна.**

● КУЛЬТУРА

## Дах у бібліятэку прывязуць з Ніжняга Тагіла

**МАЛАДЗЕЧНА. Цэнтральная бібліятэка імя Максіма Багдановіча сёлета, хутчэй за ўсё, не запрацуе.**

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў намеснік старшыні райвыканкама **Вадзім Цар**.

– Не ўсё так проста, як здаецца. Працэдура тэндэра на правядзенне праектных работ зацягнулася. Вынікі яго будуць вядомыя толькі 17 лістапада.

Магчыма, што бэлькі перакрыцця прывязуць з Ніжняга Тагіла.

**– Чаму не з мясцовай вытворчасці?**

– Яшчэ нічога не вырашана. У Ніжнім Тагіле могуць зрабіць пракат патрэбнай нам даўжыні. Бэлькі з іншых прадпрыемстваў давядзецца варыць, а гэта дадатковыя нязручнасці.

**– У бібліятэцы пасля рамонту будзе заменены толькі дах?**

– Акрамя даху плануем замяніць электраправодку, сістэму ацяплення і вентыляцыю.

Вадзім Цар запэўніў, што пасля рамонту ў бібліятэцы будзе знаходзіцца бяспечна.

**Наталля ТУР.**

● ГРАМАДСТВА

## Прыняты законапраект аб альтэрнатыўнай службе

**10 лістапада, у панядзелак, у Палаце прадстаўнікоў прынялі законапраект аб альтэрнатыўнай службе, унеслі адпаведныя папраўкі ў некаторыя законы.**

Першапачаткова прапаноўвалі, што маладзёны без вышэйшай адукацыі павінны будуць праходзіць альтэрнатыўную службу на працягу 30 месяцаў, а выпускнікі ВНУ – 20 месяцаў. Цяпер вырашылі павялічыць тэрміны да 36 і 24 месяцаў адпаведна.

Плануюць, што "альтэрнатыўшчыкі" будуць працаваць у сферы сацабароны, медустановах, лясной гаспадарцы і ЖКГ. У законапраекце сказана, што на час праходжання службы маладых людзей забяспечваюць памяшканнем, прыдатным для пражывання.

"Альтэрнатыўшчыкам" трэба будзе працаваць 48 гадзін (шэсць дзён) на тыдзень. Плаціць плануюць 150% ад бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва за два апошнія кварталы.

Выплаты могуць павышаць, калі малады чалавек будзе служыць без наракання.

**Паводле "Нашай Нівы".**

## 20 лістапада і 18 снежня не будуць прадаваць спіртное ў крамах

**ВІЛЕЙКА. Абмежаванне продажу алкаголю 20 лістапада і 18 снежня анансавалі ўлады Вілейскага раёна.**

У гэтыя дні па краіне праводзяцца адзіныя дні здароўя. Такім чынам насельніцтва Вілейшчыны будуць прывучаць да здаровага ладу жыцця.

Як паведамляе interfax.by, у пазначаныя даты алкаголь дазволена прадаваць толькі ў пунктах грамадскага харчавання на разліў.

Не выключана, што ініцыятыву вілейскіх уладаў забараніць у адзіныя дні здароўя пяць падхопяць і іншыя рэгіёны Беларусі.

Адзіны дзень здароўя 20 лістапада прымеркаваны да Сусветнага дня супраць курэння і прафілактыкі анкалагічных захворванняў, а 18 снежня прысвечаны прафілактыцы траўматызму.

Нагадаем, за незаконны продаж спіртнога заканадаўствам прадугледжаны штраф – да 20 базавых велічынь і канфіскацыя алкагольных напояў, што прадаюцца.

**Паводле naviny.by.**




Дар'я Ажогіна, загадчыца навукова-фондавага аддзела Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, паказвае вярэньку. Для фігуры гаспадыні знайшлі пояс на Мядзельшчыне.

ТРАДЫЦЫІ

# Калатоўку і вярэньку паказалі на выставе

**МЯДЗЕЛ. "Адзін кажа: "Світай, Божа". Другі кажа: "Не дай, Божа". Трэці кажа: "А мне ўсё роўна: як удзень, так і ўночы, стаю, вытарашчыўшы вочы".**

Такую загадку загадвалі на адкрыцці новай выставы ў мядзельскім музеі народнай славы. Калі яшчэ не адгадалі, ёсць час падумаць: адгадку дадзім у канцы артыкула.

А пакуль раскажам пра выставу "Гаспадыня ў хаце – лепшае багацце". Выстава прысвечана беларускай кухні і кухоннаму начынню канца 19 – пачатку 20 стагоддзя. Гэта сумесны праект Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту і мядзельскага музея.

Падзеленая выстава на раздзелы: "Вясковы стол", "Печ", "Бабін кут", "Клець", "Кірмаш" і "Гарадскі стол". Тут можна пабачыць прадметы і рэчы з інтэр'ера сялянскай хаты. Мажліва дазнацца пра беларускія стравы, пра тое, як захоўвалі прадукты і з якімі прыладамі ішлі на кірмаш. А яшчэ зможаце знайсці "продкаў" міксера, даведаецеся, чым тады гарадскі стол адрозніваўся ад сялянскага.

### Сярод экспанатаў вылучаюць клетку для кілбас і сыроў

На адкрыцці супрацоўніцы мядзельскага музея частавалі караваем і наладзілі вячоркі: спявалі песні і прыпеўкі, танцавалі і загадвалі загадкі. Пераможцам уручалі прызы, таксама сімвалічныя: магніты з рэцэптамі беларускіх страў.

Нават і не зусім юныя мядзяльчане не ведалі прызначэння ўсіх экспанатаў выставы. Пастаянна было чутно: "А гэта што такое?". "Калатоўка для расчынкі цеста", – тлумачыла загадчыца навукова-фондавага аддзела Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту **Дар'я Ажогіна.**

**– Якія з вашых экспанатаў найбольш цікавыя?** – пытаю ў яе.

– Якую рэч ні вазьмі, кожная мае сваю гісторыю. А наведнікаў асабліва цікавіць клетка для захоўвання сыроў і кілбас, бо цяпер такога няма.

### Дамская сумачка беларускай сялянкі

Паказала Дар'я свой улюбёны экспанат – вярэньку.

– Гэты прадмет вельмі люблю. Ён падобны на сучасную дамскую сумачку. Але гэта праобраз тэрмаса. Зробленая вярэнька з бяросты. У ёй бралі ў поле ежу. Загарнуць у капусны ліст ці ў паперу – і яна будзе захоўваць цяпло доўгі час.

Некаторыя прадметы на выставе – з Мядзельшчыны.

– Вельмі цяжка было знайсці для вобраза гаспадыні адзенне з мядзельскага рэгіёна, – тлумачыць Дар'я Ажогіна. – Вось гэты пояс – з Мядзельшчыны. Астатняе – зборнае, але стараліся прытрымлівацца таго, што ўсё ж гэта жанчына з Паазерскага рэгіёна.

Працаваць выстава будзе да 21 снежня. І вось адказ на загадку, прыведзеную ў пачатку: ложак, дзверы, акно.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Вярэнька – сплецены з бяросты кошык з накрыўкай.

КУЛЬТУРА

## Зазірнулі на агеньчык у бібліятэку – атрымалі прызы і зарад эмоцый

**ВІЛЕЙКА. Што дзень 31 кастрычніка для гарадскога філіяла 1 не зусім звычайны, наведнікі бібліятэкі маглі здагадацца ўжо зранку. Сувеніры дарылі ўсім, хто запісаўся ў гэты дзень у бібліятэку.**

Але ж асноўныя падзеі былі пасля 17 гадзін: тады пачаўся вечар бібліятэчных задавальненняў "Зазірніце да нас на агеньчык".

– Мерапрыемства прайшло на адным дыханні, – дзеліцца загадчыца гарадскога філіяла №1 Вілейскай раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Ганны Новік **Галіна Ражко.** – І мяркую, чытачы атрымалі зарад станоўчых эмоцый.

Вечарыну наведала больш за 40 чалавек. Кожнага наведніка адразу чакаў сюрпрыз: ён станавіўся удзельнікам розыгрышу шчаслівых жэтонаў. А яшчэ ж прайшоў розыгрыш беспройгрышнай літаратурнай латарэі.

Працавалі салон кніжнай магіі і бібліякафэ, рэтра-выстава "Кнігі са старой шафы". Упершыню зрабілі "Літаратурную карту". На стэндзе размясцілі фатаграфіі аўтараў і асобна назвы кніг. І патрэбна было скласці пару. Душэўна прайшла літаратурна-музычная сустрэча з чытачкай **Ірынай Сакалоўскай**.

Ушанавалі лепшых чытачоў у шасці намінацыях. "Самы тоўсты фармуляр" аказаўся ў **Сяргея Ракецкага**. "За любоў да кнігі і чытання" ўзнагародзілі **Святлану Паўлаву**. У намінацыі "Верны сябар бібліятэкі" адзначылі **Людмілу Рыжанкову**, "Містэр Фэнтэзі" – **Валерыя Сільвановіча**, "Мецэнат бібліятэкі" – **Часлава Лобача**. Прыз бібліятэчных сімпатый уручылі **Генадзю Хацяновічу**.

Не забыліся ў бібліятэцы пра сваіх ветэранаў працы: кветкамі і сувенірамі парадавалі **Тамару Валынец**, **Лілію Мароз** і **Таццяну Круцько**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАМЯЦЬ

## Прайшоў пяты аўтапрабег па месцах Першай сусветнай

**ВІЛЕЙКА. На Вілейшчыне 8 лістапада прайшоў аўтапрабег па памятных мясцінах і месцах пахавання салдат Першай сусветнай. Традыцыйна ён адбываецца напярэдадні Дня прымірэння і памяці ахвяр гэтай вайны.**

– Удзельнікаў аўтапрабегу было шмат. У калоне ішло больш за 25 аўтамабіляў і аўтобусаў, – распавёў дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Сяргей Ганчар**.

Удзельнічалі ў аўтапрабегу вучні і настаўнікі некалькі школ горада і раёна, жыхары Вілейшчыны, краязнаўцы са Смаргоні, Мядзела і Вілейкі, госці з Расіі. А яшчэ – прадстаўнікі ваенна-патрыятычнага клуба "Юны дэсантнік" з Маладзечна, ваенна-гістарычных клубаў з Брэста, Гомеля, Мінска. Сярод іх былі ўдзельнікі ў форме як рускай, так і германскай армій.

Аўтапрабег быў юбілейны: праводзіўся пяты год запар. Арганізоўвае яго фонд "Памяці Першай сусветнай вайны "Крокі" па ініцыятыве **Барыса Цітовіча.**

Новым у сёлетнім мерапрыемстве стала тое, што пачалося яно праездам ля могілак па вуліцы 1 Мая. Там узводзіцца брама-капліца ў гонар воінаў, якія паляглі пры вызваленні горада ў 1915 годзе.

Далей удзельнікі аўтапрабегу наведалі могілкі "Лясныя" ў Вілейцы, дзе знаходзяцца тры брацкія магілы з перапахаваннямі астанкаў рускіх воінаў. Пабывалі на брацкай магіле каля вёскі Порса. Там пахаваныя салдаты 27-га армейскага корпуса імператарскай арміі, якія загінулі пры ліквідацыі Свянцянскага прарыву.

Маршрут праходзіў па памятных месцах і пахаваннях у вёсках Бараўцы, Жарсцвянка, Нарач, Папоўцы, па мемарыяльных комплексах каля вёсак Рускае Сяло і Забродзе.

На кожным памятным месцы святары правялі ліціі (кароткія памінальныя малітвы) на ўспамін усіх загінулых. Невялікую паніхіду адслужылі ў Барысаглебскай капліцы ў вёсцы Забродзе.

Пазнаёміліся ўдзельнікі з музейнай экспазіцыяй па тэме Першай сусветнай вайны на Вілейшчыне.

– Як звычайна, на кожным прыпынку расказвалі пра гісторыю гэтага месца, – кажа Сяргей Ганчар. – Бо адна з мэт аўтапрабегу – каб удзельнікі больш ведалі пра падзеі тых часоў і помнікі на Вілейшчыне.

Па добрай традыцыі завяршылася мерапрыемства сяброўскай гарбатай на беразе Нарачанкі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**


Фота lente-ua.net.

Правільна мыць бялізну — таксама навука.

● СПАЖЫВЕЦ

# Універсальныя сродкі – горшы выбар гаспадыні

**МАЛАДЗЕЧНА. "Я 25 тысяч на пральны парашок узяла, дайце які", – "Вазьміце капсулы, яны паштучна", – "Ого, ні разу не купляла, а як яны мыюць?", – "Усе хваляць, добра адмываюць. Лепш іх бярыце, чым танны парашок".**

На маладзечанскім рынку днём у сераду да павільёна з бытавой хіміяй пакупнікі падыходзілі штохвіліну, калі там былі мы. Гаспадыням рознага ўзросту быў патрэбны розны тавар, і кожная ў выбары раілася з гандляркай **Аксанай**.

Многіх пакупнікоў асабліва цікавіць новы тавар сярод пральных парашкоў – гелевыя капсулы, якія пры мыцці закідваюць адразу ў барабан машынкі разам з бялізнай, адну капсулу на адну загрузку машынкі.

Але на жаночых форумах з'яўляюцца і адмоўныя каментары на тэму капсул. Праўда, як пасля высвятляецца, гаспадыня памыла капсулай тканіну, якую нельга мыць гэтым сродкам паводле інструкцыі.

Як правільна выбіраць сродкі для мыцця, правільна займацца мыццём бялізны і захоўваць рэчы ў добрым стане, чытачам "РГ" дапамагае разабрацца менавіта Аксана.

Навінка сярод пральных парашкоў безумоўна прыцягвае пакупнікоў. Многім проста цікава паспрабаваць новы від тавару.

А ацаніўшы якасць, прымаюць рашэнне, ці дадаваць яго ў арсенал пастаянных сродкаў, якія памагаюць захоўваць чысціню ў доме.

Вельмі зручна, што капсулы можна набыць паштучна. А нават калі набываеш упакоўку, несці дадому іх нашмат зручней, чым 3-5-кілаграмовы пачак парашку.

Параўнаем цэны на мыйны сродак адной фірмы. У выглядзе парашку пачак на тры кілаграмы каштуе 115 тысяч рублёў. Яго хопіць на 20 загрузак машынкі. Упакоўка на 32 капсулы каштуе 150 тысяч рублёў.

**Калі прывесці да цаны за адно мыццё, капсула з упакоўкі каштуе 4 687 рублёў, хаця паштучна прадаецца за 6 500. Адна порцыя парашку – 5 750. Адно мыццё з гелевай капсулай абыходзіцца на тысячу танней.**

Але калі парашок можна засыпаць столькі, колькі патрабуецца, то капсула мае нязменны аб'ём.

### Не лянуйцеся сартаваць бялізну і замочваць яе

Як адзначае Аксана, сродкаў для мыцця становіцца больш і яны ўдасканальваюцца, але выбраць сабе адзін парашок наўрад ці атрымаецца.

– Многія гаспадыні імкнуцца спрасціць сабе жыццё, купляюць адзін універсальны сродак, а пасля скардзяцца, што рэчы ці не адмываюцца, ці разводы, ці хутка псуюцца. Бялізну трэба размяркоўваць па колерах, тыпу тканін – шэрсць, шоўк, бавоўна, лён. Глядзіце на біркі, якія ёсць на кожнай рэчы, там напісана, як яе мыць. І, вядома, парашок ці гель – яго трэба класці столькі, колькі разлічана на вагу загрузкі. У нас жа рэдка якая гаспадыня звяртае на гэта ўвагу.

Часам праз жаданне зэканоміць час у машыну закідваюць рэчы, якія нельга мыць разам, ці перагружаюць машыну.

– Нашы мамы і бабулі мылі ўручную звычайным мылам, кіпяцілі, і адмывалася ўсё нашмат лепш, чым у машыны-аўтамаце. Сучасныя гаспадыні могуць патрацiць крыху больш часу, каб мыць правільна. Я раю карыстацца спецыялізаванымі сродкамі для далікатных тканін, светлых, цёмных, каляровых.

**Нават калі загрузкі для чорнага, напрыклад, у вас нячастыя, гэтыя рэчы дзякуючы спецыяльнаму сродку сапраўды застануцца чорнымі.**

Калі баіцеся разводаў, бярыце вадкі сродак. Чытайце, ці падыходзіць парашок да вашай тканіны.

Аксана амаль перад кожнай загрузкай спачатку замочвае бялізну з гаспадарчым мылам і толькі пасля загружае ў машынку-аўтамат. Вынік зусім іншы, калі вы аддаяце справе крыху больш увагі, запэўнівае гандлярка.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● КАМЕНТАР СПЕЦЫЯЛІСТА

## Чым пахне чысціня

Як не нашкодзіць сабе мыйнымі сродкамі, пракаментавала каардынатар праграмы па экалагічна сяброўскім ладзе жыцця Цэнтра экалагічных рашэнняў **Дар'я Чумакова**:

– Захоўвайце парашкі ў месцы, дзе бывае рэдка, напрыклад, у кладоўцы, але не ў ванным пакоі. Кладзіце недасяжна для дзяцей, бо сучасныя сродкі пахнуць вельмі спакусліва.

Некаторыя думаюць, што чыстыя рэчы пахнуць марскім брызам ці вясеннім лугам. Чысціня не пахне. Пахнуць хімічныя рэчывы, якія кепска вымыліся, а вы імі дыхаеце.

Я не бачу адрозненняў паміж гелевымі капсуламі і звычайнымі парашкамі, акрамя зручнасці першых.

Глядзіце на склад сродку. Добра, калі паверхневых актыўных рэчываў менш за 5%, а фасфаты заменены іншымі мінераламі, якія не шкодзяць экалогіі.

● АДУКАЦЫЯ

## Параўнала пісьменнасць беларусаў і французаў – і перамагла

**МАЛАДЗЕЧНА.** У сталіцы 1-2 лістапада прайшоў конкурс прац даследчага характару вучняў устаноў адукацыі Мінскай вобласці.

Былі прапанаваныя працы з 22 раёнаў Міншчыны, а таксама з Літвы і Латвіі, паведамляе абласны інстытут развіцця адукацыі.

Найбольшага поспеху з прадстаўнікоў нашага рэгіёна дасягнула адзінаццацікласніца гімназіі №3 Маладзечна **Карына Мышлён**. Яна атрымала дыплом першай ступені ў секцыі "Нямецкая, французская і іспанская мовы. Філалогія. Краіназнаўства". Карына ў сваёй працы параўнала ўзровень пісьменнасці французскіх і беларускіх школьнікаў.

На рахунку яшчэ дзевяці прадстаўнікоў рэгіёна з Валожынскага, Вілейскага і Маладзечанскага раёнаў – дыпломы другой і трэцяй ступеняў у розных секцыях.

**Аддзел інфармацыі.**

● ЗАБАВЫ

## Дарослыя гулялі як дзеці

**МЯДЗЕЛ, АСТРАВЕЦ, СМАРГОНЬ.** У Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня" ад 3 да 5 лістапада праходзілі дзясяты рэспубліканскі конкурс гульнявых праектаў і міжнародны фестываль "Гуляюць дзеці – гуляем мы!".

У рэспубліканскім конкурсе прыняло ўдзел 12 камандаў. У прызёрах – прадстаўнікі рэгіёна. Смаргонскі раённы цэнтр творчасці дзяцей і моладзі ўзнагароджлі дыпламам другой ступені за праект "Добры дзень, лес!". Астравецкі цэнтр творчасці дзяцей і моладзі атрымаў дыплом трэцяй ступені. Адзначылі яго за гульнявы праект "Цырк паехаў, а мы засталіся!".

У міжнародным фестывалі гульнявых праектаў прынялі ўдзел каманды з Беларусі і Расіі. Гаспадары з праектам "Зубраняці – 45!" перамаглі ў намінацыі "Уменне працаваць у камандзе".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Аматары лазні просяць паддаць пары

**МАЛАДЗЕЧНА. Куды знікаюць дыванкі ў гарадскіх лазнях. Чаму гараджанам не хапае пары. Каму небяспечна парыцца ў лазнях. Ці можна вылечыцца ад некаторых хвароб, калі мыцца ў лазні.**

Шукала адказы карэспандэнтка "Рэгіянальнай газеты".

У рэдакцыю "РГ" звярнуўся чытач **Леанід Раткевіч** з Маладзечна. Ён скардзіцца на тое, што лазню па вуліцы Грамадоўскай, былой Кірава, сталі дрэнна паліць, што і памыцца немагчыма:

– Я хаджу ў гэту лазню ўжо больш за 40 гадоў, – заўважае Леанід Раткевіч. – За гэтыя гады ў нас склалася свая кампанія, чалавек 10-15, якія ходзяць на выхадных папарыцца. На мінулых выхадных нам прыйшлося ісці ў лазню па былой вуліцы Энгельса, цяпер Буйніцкага. Але ведаеце – атмасфера там не тая.

Мужчына гаворыць, што раней на падлозе ляжалі дыванкі. Цяпер жа і гэтага няма. Леанід Раткевіч заўважае:

– У лазні гавораць, што гэта наведнікі іх крадуць. Аднак каму яны патрэбныя?

### "Незадаволенасць цеплынёй у лазнях выкліканая падаражаннем квіткоў"

Начальнік лазневай гаспадаркі "Камунальніка" **Міхаіл Івашкевіч** патлумачыў:

– Лазні ў горадзе заўсёды напаленыя добра. Нават калі зайсці туды ў панядзелак, у выхадны, то можна будзе яшчэ папарыцца. Паводле адпаведнай пастановы, тэмпература ў парылках павінна быць не менш за 75 градусаў на верхняй паліцы. Адпаведную тэмпературу печнікі заўсёды трымаюць. У лазні з фінскай парай – тэмпература ад 80 да 120 градусаў.

Як лічыць начальнік лазневай гаспадаркі, некаторым гэтай тэмпературы не хапае, хочацца яшчэ больш "парку", таму людзі і скардзяцца.




Здаўна лазня з'яўляецца эфектыўным сродкам барацьбы з фізічнай і разумовай стомленасцю. Нездарма казалі: "Лазня парыць, лазня правіць, лазня сілы нам дае".

– Але аднаму ад такой тэмпературы будзе добра, а другі пасля яе і не выпаўзе адтуль, – заўважае Міхаіл Івашкевіч. – Таксама незадаволенасць парай і цеплынёй у лазнях выкліканая падаражаннем квіткоў, цэны павысілі ад 10 кастрычніка. Што датычыцца дыванкоў, то новыя ўжо заказалі, таму хутка іх пакладуць. Мяркую, яны надоўга паляжаць – тыдзень-другі – і зноў знікнуць, як ужо бывала. Яны невялічкія, таму вялікай цяжкасці не складае пакласці ў пакет і панесці дадому.

**Галіна СІНІЦА.**

## Можна атрымаць інсульт, калі піць у лазні спіртное

**Павел Бохан**, намеснік дырэктара па медыцынскай рабоце санаторыя "Сасновы Бор", адзначыў:

– Асноўнае ўздзеянне лазня аказвае на сардэчна-сасудзістую сістэму, у людзей павышаецца ціск. Таму хворым на гіпертанію чацвертай, трэцяй, а часам і другой ступеняў трэба быць асцярожнымі. Варта быць пільнымі і людзям з гіпатаніяй, ці паніжаным ціскам. Падчас мыцця ў лазні сасуды расшыраюцца, таму ціск у іх зусім можа ўпасці, а адсюль узнікае галавакружэнне, млоснасць. І ўвогуле чалавек можа страціць прытомнасць.

Намеснік дырэктара па медыцынскай рабоце раіць людзям, якія не прывыклі да лазні, прызвычайвацца паступова.

– Пачынаць трэба з кантрасных працэдур. Паступова рыхтаваць сасуды. Праз некаторы час можна мыцца ў лазні з невысокай тэмпературай. Калі ж чалавек адчувае сябе камфортна, то можа пераходзіць на мыццё ў рускай лазні, дзе тэмпература вышэйшая. Але заўсёды трэба звяртаць увагу на сваё самаадчуванне.

Калі ж становіцца дрэнна, не трэба перасільваць сябе і заставацца ў лазні. Лепш выйсці ў прылазнік, дзе меншая тэмпература паветра, або выйсці на свежае паветра.

Доктар адзначае:

– Мыццё ў лазні не можа пазбавіць чалавека ад хваробы. Каб вылечыцца, трэба комплекснае лячэнне, прыпісанае доктарам, якое можна дапаўняць працэдурамі ў лазні. Аднак і лячэнне, і працэдуры павінны падбіраць індывідуальна доктар.

– Лячыць трэба не хваробу, а хворага, – падсумоўвае медык.

Ёсць распаўсюджаная думка, што мыццё ў лазні дапамагае пахудзець. Аднак Павел Бохан заўважае:

– Калі ў чалавека ёсць праблемы з лішняй вагой, значыць, парушаныя абменныя працэсы. І таму толькі адно мыццё ў лазні не можа пазбавіць ад праблемы. Трэба комплекснае лячэнне, кансультацыя спецыяліста. Але калі мыццё ў лазні спалучаць з іншымі сродкамі, то праблему можна вырашыць.

Доктар не раіць браць з сабой у лазню спіртныя напоі ні ў якім выпадку. Гэта можа прывесці да інсульту, гіпертанічных крызаў. Лепш піць чай, гарбату, мінеральную ці гатаваную ваду.

● **НАМ ПІШУЦЬ**

## Як святар мыўся ў лазні са шкіпінарам

**ВАЛОЖЫН. "Рэгіянальная газета" прапанавала чытачам расказаць свае цікавыя гісторыі пра тое, як яны парацца ў лазні.**

Сваю гісторыю нам даслала чытачка **Наталля**. Дзяўчына расказала смешную гісторыю, як у яе вёсцы Доры мыліся ў лазні.

– Памятаю, быў у нашай вёсцы святар. Той заўсёды хадзіў мыцца са сваім шкіпінарам. Усё пары яму не хапала! – абураецца дзяўчына. – Бывала, як ліне яго на гарачыя камяні, здаецца, усе ўнутранасці выгараць. Дык гэта пры тым, што мылася я ў жаночым аддзяленні. У мужчынскім нават і не ведаю, што рабілася.

### Мыўся святар пасля ўсіх

Дзяўчына заўважае, што пах пасля мыцця святара стаяў яшчэ тыдзень. Да наступнай лазні.

І вось аднойчы аднавяскоўцы Наталлі вырашылі правучыць яго і не пусціць у лазню. Усе мыліся, а некалькі чалавек чакалі на вуліцы, пакуль не пакажацца чырвоная машына святара.

**Як толькі ўбачылі яе, заскочылі ў лазню, закрылі знутры дзверы і вокны.**

Як святар не імкнуўся туды трапіць, нічога не атрымалася. Запусцілі яго толькі пасля таго, як усе памыліся.

– Але і гэта не адвучыла яго браць з сабой у лазню шкіпінар, – падсумоўвае Наталля. – Толькі мыцца ўжо хадзіў не з усімі, а пасля.

**Галіна СІНІЦА.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Васіль Лябецкі два разы абабег зямны шар

## 65-гадовы бягун з Маладзечна цягам пяці гадоў не выходзіць з прызёраў

**МАЛАДЗЕЧНА. Як прызнаецца сам спартсмен, для яго бег – жыццёвая патрэба. Як сняданне для звычайнага чалавека.**

Васіль Лябецкі распавядае пра трэніроўкі і перамогі, пра напружанне на працы, з якім даводзілася спраўляцца, пра дзяцей і ўнукаў, што ідуць па слядах.

Ён трэніруецца ўжо цягам 40 гадоў. Калі два дні праседзіць дома, адчувае дыскамфорт.

– Быццам нечага не хапае, – прызнаецца спадар Васіль. – Таму ўвесь час трэніруюся, шукаю ў інтэрнэце марафоны, у якіх магу ўзяць удзел.

Васіль Лябецкі не баіцца доўгіх дыстанцый. Бегае ад пяці да 42 кіламетраў.

– Летась у снежні прабег 42 кіламетры за 3 гадзіны і 18 хвілін.

### Падчас прабежкі яго заўважыў чэмпіён Беларусі

Бегаць спартсмен пачаў пасля службы ў арміі ў Германіі. Вызначальная сустрэча для яго адбылася ў час адной з трэніровак.

– 1970 год. Бягу, а мне насустрач таксама чалавек бяжыць. Старэйшы за мяне, на самым піку формы. Спыніў мяне, запытаўся, хто я і адкуль. Прапанаваў разам трэніравацца.

Аказалася, што гэта быў майстар спорту **Аляксандр Цімафеенка.** Ён станавіўся чэмпіёнам Беларусі ў марафонскім бегу, пяць гадоў запар уваходзіў у лік лепшых бегуноў СССР.

– Што там армія! – параўноўвае нагрузкі ад бегу Васіль Лябецкі. – Тры-пяць кіламетраў. На трэніроўках адразу да 30 дайшоў! Аляксандр Раманавіч не шкадаваў мяне. Можа, і да лепшага, так характар загартоўваецца. Як ён казаў, цяжка на трэніроўцы, а яшчэ цяжэй на спаборніцтвах. Цяпер і я сябе не шкадую.

На думку спартсмена, бег – цяжкі і марудны спорт.

**– Гэта не хакей, спорт не дарагі. Патрэбныя толькі красоўкі добрыя. Аднак трэба быць фанатам, каб ім займацца. Я адзінокі воўк. Секундамер на руцэ – мой самы галоўны вораг і сапернік.**

І дзякуючы вось такому саперніку ў бегуна ўжо каля 70 медалёў.




Фота з архіва Васіля ЛЯБЕЦКАГА.

**Секундамер на руцэ – галоўны вораг і сапернік бегуна з Маладзечна Васіля Лябецкага.**

### Унук хутка будзе класці на траву

10-гадовы ўнук, **Антон**, як прыходзіць у госці, кожны раз пытаецца ў дзеда: "Ну што, ёсць новыя медалі?" І спадар Васіль кожны раз тлумачыць, што не так шмат забегаў, каб кожны тыдзень новыя медалі прыносіць.

Антон займаецца айкідо. Трэці год і трэці пояс, сіні.

– Хутка будзе класці дзеда на траву, – усміхаецца спадар Васіль.

Бацька Антона, **Віталь**, старэйшы сын Васіля, раней займаўся лёгкай атлетыкай. Быў сярод лепшых у рэспубліцы. Пасля пайшоў у баскетбол, а цяпер працуе настаўнікам фізкультуры.

Сын **Аляксандр** спачатку абраў плаванне. Потым таксама сышоў у баскетбол. Паступіў жа ў лінгвістычны ўніверсітэт, і спорт застаўся як хобі.

– Сынам на сабе прыклад паказваў. І яны, мабыць, проста не маглі па-іншаму. Яны – мае першыя заўзятары. Заўсёды тэлефануюць пасля прабегаў, хвалююцца.

Жонка, **Ірына Маркаўна,** таксама перажывае і падтрымлівае.

– Мне з ёй пашанцавала. Падтрымлівае, ведае, калі і чым карміць. Шкадуе, што так мучаю сябе. Але радуецца кожнай узнагародзе, якую прывожу, – распавядае бягун.

### Як збіла машына

Але не ўсё ў яго спартыўнай кар'еры было так гладка. У пачатку 1980-х збіў аўтамабіль.

Ці пашчасціла, ці праз трэніроўкі, але абышлося без пераломаў. Тры тыдні ён адляжаў у бальніцы.

– Дактары дзівіліся, як так магло атрымацца. Так ляцеў, а цэлы.

Год пайшоў на тое, каб Васіль Лябецкі вярнуў сабе форму. Усё праз боль. Спачатку на ровары ездзіў, потым плаваў, а пасля вярнуўся да бегу.

**– Ужо прабег каля 2,5 тысячы кіламетраў. Сёлета дакладна тры тысячы будзе. Жартую, што два разы шар зямны абабег.**

Аднак спартсмен не адмаўляе таго, што даводзіцца шмат чым і ахвяраваць. І час, які ён мог прысвяціць нечаму іншаму, даводзіцца аддаваць трэніроўкам.

### Калегі круцілі каля скроні

Раней Васіль Лябецкі працаваў машыністам цеплавоза.

– Сядзячая праца, псіхалагічная, – адзначае ён. – Бачыў, як людзі кідаюцца пад цягнік. Бег дапамагаў здымаць стрэс. Праўда, калегі, калі дазналіся пра маё захапленне, спачатку круцілі пальцам каля скроні.

Цяпер спадар Васіль на пенсіі. Часта выязджае на лецішча ў Вытрапаўшчыну. Як сам гаворыць, працы хапае. Аднак не перастае бегаць і перамагаць. Сябе і іншых.

**Настасся РОЎДА.**

ПЕРШАЯ ЛІГА

# "Смаргонь"–"Хваля": шалёны гол на апошніх хвілінах і нічыя 1:1

**СМАРГОНЬ. У суботу, 8 лістапада, футбольны клуб "Смаргонь" правёдзіў чарговы матч чэмпіянату Беларусі. У Пінску "чырвона-чорныя" сустракаліся з мясцовай "Хваляй".**

Мала хто сумняваўся, што смаргонскі клуб здолее дамагчыся ўпэўненай перамогі над аўтсайдарам чэмпіянату. Кадравыя праблемы гаспадароў у выглядзе траўмаваных і дыскваліфікаваных гульцоў выліліся ў тое, што ў заяўцы на гульню ў пінчукоў значылася толькі 13 прозвішчаў замест 18.

Ад самага пачатку смаргонцы пазначылі перавагу. Цягам першага тайма некалькі разоў стваралі небяспечныя моманты ля варот гаспадароў. Актыўны быў і лепшы бамбардзір клуба **Мікалай Рындзюк**, нядрэнная магчымасць для ўзяцця варот была ў **Паўла Баскакава.**

Правы фланг у асобе **Уладзіміра Казко** таксама актыўна ўдзельнічаў у стварэнні атакуючых камбінацый. Але ў якой ужо гульні футбалістаў "Смаргоні" падводзіць рэалізацыя момантаў. Ствараць – ствараем, а ўвасобіць у забітыя мячы цяжка. Але на заканчэнне першай паловы матча "Смаргонь" усё ж даціснула абарону гаспадароў. **Сяргей Кавалюк** дакладнай знайшоў у штрафной **Мікалая Рындзюка.** Той разабраўся з абаронцам і галкіперам "Хвалі" і адкрыў лік.

Здавалася, пачатак пакладзены. У другім тайме смаргонцы не толькі змогуць павялічыць лік, але і давесці яго да разгромнага.

Удала праведзеныя галоўным трэнерам "Смаргоні" замены ўзмацнілі гульню. **Сяргей Равіна** і **Вячаслаў Замара** арганічна ўпісаліся ў малюнак гульні. Сяргей не раз далёкімі ўдарамі сур'ёзна непакоіў галкіпера пінчукоў, а Вячаслаў літаральна раздзіраў правы фланг абароны саперніка. Моманты былі, бракавала дакладнага ўдару.

Матч каціўся да мінімальнай перамогі "Смаргоні". На 90 хвіліне гаспадары атрымалі права на штрафны ўдар у некалькіх метрах ад сярэдзіны поля. Здавалася б, якая можа быць пагроза? Але капітан "Хвалі" **Сяргей Валадзько** ўбачыў, што варатар "чырвона-чорных" **Радзівон Сямук** далёка выйшаў з варот.

**Нечаканая для ўсіх гулец замест навесу ў штрафную плошчу адважыўся на ўдар па варотах. Мяч апісаў дугу ў паветры і заляцеў у вароты смаргонцаў. Радзівон Сямук так і не здолеў да яго дацягнуцца.**

Прапушчаны на апошняй хвіліне кур'ёзны гол пазбавіў ФК "Смаргонь" магчымасці скарацiць адставанне ад "Віцебска", які ідзе трэцім. Але і віцябляне не скарысталіся асечкай смаргонцаў. У дамашнім матчы згулялі ўнічыю са "Слонімам" – 2:2.

Можна сказаць, усе засталіся "пры сваіх". Толькі тураў да канца засталося менш. Наступны матч "Смаргонь" правядзе 15 лістапада на дамашнім стадыёне "Юнацтва". У госці завітае сталічная "Зорка-БДУ". Пачатак сустрэчы ў 14 гадзін. На сайце ФК "Смаргонь" можна будзе паглядзець онлайн-відэатрансляцыю матча.

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ,**
**Смаргонь.**

ВЕЛАСПОРТ

# Пракаціцца восенню на раварах

**МАЛАДЗЕЧНА. Веларалі з назвай "Маладзечанская восень" прайшла ў пачатку лістапада ў Маладзечне.**

У ралі ўзялі ўдзел 54 чалавекі з Маладзечна, Вілейкі, Лагойска і Мінскага раёна.

Спаборніцтвы праводзіліся па пяці ўзроставых групах. Акрамя велапрабегу, у праграме было і спартыўнае арыентаванне.

Самымі малодшымі ўдзельнікамі былі 10-гадовы **Аляксей Іваноў** і 11-гадовая **Марыя Мяцеліца** з Маладзечна.

А самаму старэйшаму ўдзельніку **Віктару Тупко** з Лагойска споўнілася 66 гадоў.

Усім камандам трэба было выканаць заданне знайсці на картах пікеты і адзначыцца на іх у сакратароў спаборніцтваў.

– Што самае цікавае, – кажа сакратар спаборніцтваў **Іна Высоцкая**, – нашым удзельнікам мы прапанавалі два маршруты: лёгкі, на 25 кіламетраў, і больш складаны – на 65 кіламетраў. І практычна ўсе ўдзельнікі выбралі больш доўгі і складаны маршрут.

Цікавыя і складаныя маршруты ўдзельнікі ралі выбіраюць ужо 20 год. Менавіта столькі існуе веларалі "Маладзечанская восень".

**Наталля ТУР.**

**Камент-эксперт** Rh.by

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў і паведамленні праз сэрвіс унізе інтэрнэт-старонкі ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by SMS на нумар +375-29 67-68-420**

### Хто што думае пра магчымыя свінакомплексы каля Маладзечна

У горадзе і так заўсёды чым-небудзь смярдзіць. Горш не стане. А вось ніхто не падумаў пра вясковых жыхароў і пра дачнікаў, якія прыязджаюць на прыроду адпачыць. У іх пад бокам пабудуюць велізарную свінаферму. І вада ў калодзежах папсуецца, і свежым паветрам не падыхаць. І тэхніка для абслугоўвання будзе пастаянна споўдаць.*Tyz*

Захацеў кароўнік пабудаваць менавіта пад Чысцю адзін былы старшыня калгаса. Старшыня ўжо іншы, але пах у Чысці застаўся. А кароўнік не свінарнік, пах ад 1 кг каровінага ка ка як ад "Шанэль №5", а ад 1 літра свіной жыжы – як ад адэкалону "Гваздзік". 800 кароў не 100 000 свіней – і да Чысці дойдзе "Гваздзік". ***Parfuumer***

● КОНКУРСЫ

## Рэцэпт старажытнай беларускай стравы ад чытачкі "РГ"

**На мінулым тыдні мы запусцілі конкурс, пераможцу якога чакаюць два білеты на юбілейны канцэрт "Старога Ольсы". Удзельнікі павінны былі даслаць рэцэпт старажытнай беларускай стравы і яе фота.**

Першай з заданнем справілася наша чытачка **Марына Кацярыніч**. Родам яна з Берасцейшчыны, цяпер працуе і жыве ў Мінску.

– Гэту страву гатавала мая бабуля, каб пацешыць сваіх дзетак нечым смачненькім, – дадала жанчына.

**Інгрэдыенты:** спелы гарбуз, невялікі або сярэдніх памераў, сушаная садавіна (пераважна яблыкі, можна дадаваць грушы, чарнасліў, разынкі і іншае)

**Спосаб прыгатавання:**

- гарбуз памыць, зрэзаць верхавіну, ачысціць сярэдзіну ад насення і валокнаў;
- папярэдне замачыць яблыкі і іншую сушаную садавіну (на 1-2 гадзіны), нашпігаваць ёю гарбуз да самага верху, закрыць зрэзанай верхавінай, паставіць у печ (духоўку) на 2 гадзіны, каб упарыўся;
- можна падаваць на стол як дэсерт.

– Бабуля клала ў гарбуз часцей толькі сушаныя яблыкі. Мы цяпер дадаём і нейкую экзатычную сушаную садавіну, свежыя яблыкі, – дадае Марына.

Аднак яна запэўнівае, што смачна атрымліваецца ў любым выпадку.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забяспечана Марынай КАЦЯРЫНІЧ.

Гарбуз, прыгатаваны па рэцэпце бабулі.

● ГАРАСКОП
14-20 ЛІСТАПАДА

**Авен.** Расстаноўка нябесных сіл складваецца найлепшым чынам. Дзейнічайце – і вам усміхнецца фартуна.

**Цялец.** У вырашэнні любога пытання прыслухоўвайцеся да свайго сэрца, умейце пачуць, што "кажа" інтуіцыя, развівайце яе, і тады ў вас многія пытанні вырашацца самі па сабе.

**Блізняты.** Калі вы зайшлі ў тупік, то не бойцеся папрасіць дапамогі: магчыма досвед іншых людзей ці кампетэнтная парада прыйдуцца дарэчы.

**Рак.** У вас можа памяняцца меркаванне пра некаторых сяброў. Пры філасофскім падыходзе да жыцця вы лёгка выйдзеце на больш высокі ўзровень свядомасці.

**Леў.** Вам проста неабходна як мага больш адпачываць. Хадзіце па крамах, кафэ, кіно – гэтыя паходы ўразяць.

**Дзева.** Бярыцеся за складаныя задачы і верце ў тое, што ўсе цяжкасці ўдасца пераадолець. Рабіце тое, што вам падабаецца, і не бойцеся гаварыць "не" нават блізкім людзям.

**Шалі.** Сілкуйце сваё сэрца, нутро любоўю кожны дзень, і гэта будзе лепшымі лекамі ад хвароб, стрэсаў. Больш бывайце на прыродзе і любуйцеся яе прыгажосцю. Навучыцеся бачыць у кожным чалавеку толькі добрае.

**Скарпіён.** Калі вам здаецца, што вы моцна стаміліся ад адносін, то не варта рабіць з мухі слана. Жыццё з другім чалавекам складаецца не толькі з радасці. Галоўнае, захаваць каханне. Вашы блізкія любяць вас і цэняць, а гэта самае важнае.

**Стралец.** Вас ужо даўно не задавальняе цяперашні стан рэчаў. Самы час накіраваць сілы на тое, каб змяніць уласны лад жыцця ў значна лепшы бок.

**Казярог.** Старайцеся стрымліваць сваё жаданне кагосьці крытыкаваць і шукаць "уласную" праўду, бо гэта псуе жыццё іншым людзям, сабе і нават вашым дзецям.

**Вадалей.** Памятайце старую прыкмету, што сабака прыходзіць у дом да поспеху ў кар'еры, а кошка прыносіць з сабой любоў. Можа, вы і не хочаце заводзіць дома ніякай жывёлы, але ўсё ж задумайцеся.

**Рыбы.** Любыя адносіны – гэта кампраміс. І цяпер вы гэта добра адчуеце. Калі вы не разгубіцеся і скарыстаецеся момантам, то будзеце ўзнагароджаны з лішкам.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Золата**" (Расія, з 16 год)
14, 15, 16 лістапада – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Трылер "**Паветраны маршал**" (Вялікабрытанія, дзецям да 14 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
14, 15 лістапада – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, без узроставых абмежаванняў)
15, 16 лістапада – у 15:00
Цана білета – 15 000 рублёў

Фантастыка/драма "**Воблачны атлас**" (ЗША, з 16 год)
16 лістапада – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Крымінальны баявік "**Пластык**" (Вялікабрытанія, з 16 год)
19, 20 лістапада – у 18:00
Цана білета – 35 000 рублёў

Камедыя "**Спакуснік 2**" (Германія, з 16 год)
19, 20 лістапада – у 20:00
Цана білета – 35 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прыгоды "**Неверагоднае перасоўванне**" (Беларусь, без узроставых абмежаванняў)
14 лістапада – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Анімацыя "**Кароль сафары**" (ПАР, без узроставых абмежаванняў)
15, 16 лістапада – у 15:30
Цана білета – 15 000 рублёў

Камедыя "**Золата**" (Расія, з 16 год)
15, 16 лістапада – у 18:30
Цана білета – 35 000 рублёў

Прыгоды "**Мост у Тэрабітыю**" (ЗША, дзецям да 12 год прагляд фільма дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19, 20 лістапада – у 18:30
Цана білета – 20 000 рублёў

Тэл.: **8(01771), 5-43-61, 5-60-95, 5-68-59**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 8 | 2 | | | | 4 | 6 |
| | | | | | | 7 | | |
| | 9 | | 4 | 5 | | | | |
| | | 6 | | 8 | | 2 | | 7 |
| 4 | 8 | | | | | | 3 | 5 |
| 1 | | 5 | | 2 | | 4 | | |
| | | | | 4 | 5 | | 6 | |
| | | 9 | | | | | | |
| 7 | 5 | | | | 8 | 3 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя, прыгоды "**Мядзведзі-суседзі**", 3D (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
15 лістапада – у 14:30
16 лістапада – у 13:00
20 лістапада – у 15:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Сямейная анімацыя "**Махні крылом**" (Францыя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
15 лістапада – у 16:30
16 лістапада – у 15:00 (цана: 30 000 рублёў)
19 лістапада – у 16:00 (цана: 25 000 рублёў)

Драма "**Я не вярнуся**" (Беларусь, Казахстан, Расія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
14, 20 лістапада – у 17:30
16 лістапада – у 17:00 (цана: 45 000 рублёў)
18 лістапада – у 16:30 (цана: 35 000 рублёў)

"**Горка 2**" (Расія, 2014, ад 16 год)
14 лістапада – у 19:30
18 лістапада – у 18:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Драма "**Сонечны ўдар**" (Расія, 2014, пасля 16 год)
17, 19 лістапада – у 18:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка "**Інтэрстэлар**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
15 лістапада – у 18:30
16, 18 лістапада – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя "**Дзень дурня**" (Расія, 2014, пасля 16 год)
14, 15 лістапада – у 22:00 (цана білета: 50 000 рублёў)
16 лістапада – у 19:00
17, 19 лістапада– у 21:30
20 лістапада – у 19:30 (цана: 45 000 рублёў)

Прэм'ера! Фантастычныя прыгоды "Галодныя гульні: **Сойка-перасмешніца**" (ЗША, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
20 лістапада – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прыгоды "**Неверагоднае перамяшчэнне**" (Беларусьфільм, 2014)
15 лістапада – у 15:00
16 лістапада – у 17:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Тарзан**" (ЗША, 2013, без узроставых абмежаванняў)
15 лістапада – у 17:00
16 лістапада – у 15:30
Цана білета: 20 000 рублёў

"**Белыя росы. Вяртанне**" (Беларусь, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
14 лістапада – у 17:00
16, 18 лістапада – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Баявік "**Пластык**" (Вялікабрытанія, 2013, ад 16 год)
14 лістапада – у 21:00
15 лістапада – у 19:00
16 лістапада – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Дом у канцы вуліцы**" (ЗША, Канада, 2013, ад 16 год)
14 лістапада – у 19:00
15, 17 лістапада – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Меладрама "**Пампеі**" (Канада, 2014, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18 лістапада – у 21:30
19 лістапада – у 21:00
20 лістапада – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Крымінальны трылер "**Мерзлая зямля**" (США, 2011, ад 16 год)
19 лістапада – у 19:00
20 лістапада – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Казка пра цара Салтана**" (казка-паэма), *А.Пушкін* (рус. мова)
16 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. (8-0176) **75-36-73**, **76-84-27**.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Вучань ведзьмака, альбо Бітва чарадзеяў**" (казка-страшылка), *Сяргей Бялоў*
19 лістапада – у 12:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. "**Памяць, за сабой пакліч**" (музычна-паэтычны спектакль)
15 лістапада – у 17:00

"**Камедыя**" (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча), *Уладзімір Рудаў*
19 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вуліца Чкалава, 7*
Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**76-17-32** (галоўны адміністратар),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/




Камент-эксперт
Rh.by
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

## Чытайце праз тыдзень:

**Спецпраект "РГ". Мы падлічылі, колькі можна зэканоміць на картах скідак у буйных крамах. Маладзечанка цягам месяца хадзіла ў дзве крамы, дзе мае скідкі, і захоўвала рахункі. Шукайце інфаграфіку ў наступным нумары.**

## НАДВОР'Е

### 15 лістапада субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +5 | | +3 / +3 | | +2 / +3 | | +1 / +1 | |
| | 749 | ↙ 4 | 748 | ↖ 4 | 746 | ↖ 5 | 746 | ↖ 4 |
| Вільня | +5 / +5 | | +4 / +4 | | +2 / +3 | | +3 / +3 | |
| | 758 | ← 5 | 756 | ↖ 4 | 753 | ↖ 6 | 754 | ↖ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 8.42
Захад 17.12
Даўжыня дня 8.30


Усход 0.30
Захад 14.26
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- У лістападзе гола ў садзе.
- Лістапад снегу навее – хлеба прыбудзе, а вадой разальецца – летам сена набярэцца.
- У лістападзе кладзі капусту ў кадзі.

**Прагноз надвор'я прадстаўляе ДЭЛЬТА БАНК**



Рэгіянальная газета. Rh.by Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 46 (1020) 14.11.2014.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення паліграфічнай дзейнасці №02385 от 23.01.14 г. да 29.03.2019. Зак. 961. Падпісана ў друк у 10.00 13.11.2014.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.